# Самапомач

Беларуская Коопэратыўна-Гаспадарчая Часопісь

| Год IV. | Вільня, Верасень 1935 г. | № 9. |
|---|---|---|

*Хай злыдні над намі,*
*скрыгочуць зубамі*
*Любі сваю ніву, свой*
*край,*
*І, колькі ёсьць сілы,*
*да самай магілы*
*Ары, барануй,*
*засявай!..*

ЯНКА КУПАЛА.



*Усе вялікія падзеі народаў і ўсе цывілізацыі былі створаныя дабравольнымі стараньнямі аб'яднаных людзей... самапомачч у.*

*Джордж* РЭССЭЛЬ (*Ірляндзец*).



ЗЬМЕСТ № 9 (38).



# Ceny ŭ Vilni

*9.IX.35. Ceny za 100 kiloḫram.*

### Zbožža.

(*Pry kupli—prodažy*)

| | |
|---|---|
| Žyta, I | 12.75—12 80 |
| Muka pšaničnaja 1 sort | —30.00 |
| Muka žytniaja da 55 % | —22 50 |
| Muka, žytniaja da 68% | —18.50 |
| Siamieńnie lannoje b. 90%, vahonam, za 100 klh. | —28 50 |

(*Ceny z papiarednicḫ dzion*)

| | |
|---|---|
| Žyta II | 11.75—12 25 |
| Pšanica | 17.00—18 50 |
| Avios, I sort | 14 00—14 50 |
| Muka pšaničnaja II-III sort | 12.25—26 50 |
| Muka žytniaja da 55% | 21.50 - 22 50 |
| Muka žytniaja da 65% | 18.00 - 19 50 |
| Muka žytniaja sitkovaja | 14.00—14 50 |
| Muka žytniaja razovaja | 14.00—15.00 |
| Muka žyt. da 82% (typ vajskovy) | — |

### Małočnaje za 1 kilo (31.VIII.35.).

| | |
|---|---|
| Masła najlepšaje, za kilo ŭ hurcie | 2.50—2 60 |
| „ „ „ „ u detalu | 2.90 |
| Masła stałovaje (II hat.) za kilo ŭ hurcie | 2.35 - 2.45 |
| „ „ „ „ u detalu | 2.70 |
| Syr ementalski (švajc.) za kilo ŭ hurcie | 2.80—2.90 |
| „ „ „ „ u detalu | 3 50 |
| Syr litoŭski, za kilo ŭ hurcie | 1 50—2 10 |
| „ „ „ „ u detalu | 1.80—2.60 |

| | |
|---|---|
| Jajki, kapa | 3.30—4.50 |
| „ štuka | 7—8½ hraš. |

### Miasnoje 26.VIII. za 1 kilo bitaj vahi.

| | |
|---|---|
| Vałovina, całyja štuki | 0 65—0.75 |
| „ zady | 0.80—1.00 |
| Vałovina pierady (košer) | 1.00—1.20 |
| Cialacina | 0.85 - 0.95 |
| Švinina | 1 20—1.30 |
| Baranina | 0.90—1.00 |

### Skury syryja.

| | |
|---|---|
| Skury bydlačyja, syryja, za 1 kilo | 0 80 0 90 |
| Skury cialačyja, za štuku | 4.50—4.60 |
| „ aviečyja | —4.50 |

# Ceny na pravincyi

(*Za 100 kilo, ad 15.8 da 30.8.35*).

**U Brasłavie:**

| | |
|---|---|
| Žyta | 7.50—10 00 |
| Pšanica | 9.00—14.50 |
| Jačmień | 8.00—10.00 |
| Avios | 7.50— 9 00 |
| Bulba | 1.80— 2 20 |
| Siena murožnaje | 2.00— 2.50 |
| Kaniušyna (siena) | 3.00— 4 00 |
| Bydła na zarez (kilo žyvoj vahi). | 0 30— 0 40 |
| Švini kormlenyja (za kilo žyv. vahi) | 0 50— 0.60 |
| Masła prasavanaja za 1 kilo | 1.60— 1.80 |
| Jajko za štuku | 4 hr. |

# Samapomač

BIEŁARUSKI KOOPERATYŬNA - HASPADARSKI ČASAPIS.

Adres: VILNIA (Wilno), Połackaja vul. 9—4.

# Самапомач

| Hod IV. | Vilnia, Vierasień 1935 h. | Nr. 9 (38). |
| --- | --- | --- |


*Kooperatyŭna-haspadarskija naviny.*

**Kali budzie „Dzień Kooperacyi"?** Z sioletnim „Dniom Kooperacyi" u Polščy dyk zapraŭdy dziŭna: try razy naznačali — 2 i 30 červienia i 15 vieraśnie —, try razy adklikali i ŭ kancy apynulisia tam, dzie byli spačatku— na miescy. Zusim tak, jak i sama polskaja kooperacyja naahuł. A ŭsio dziela taho, što heta „kooperacyja" nia chodzić svaimi ŭłasnymi darohami, a ŭściaž tolki ciahniecca ŭ chvaście za inšymi. I najhorš, što nia čuvacca ab hetym nijakaj źmieny.

**A biaz pomačy i dalej ani ruš!** Nia ščasnyja reformatary polskaha kooperatyŭnaha zakonu dakazvali patrebu „reformaŭ" miž inšymi tym, što kooperacyi treba dać svoj sobski „chrybiot", što kooperacyju hetu treba pastavić na svaje sobskija nohi. Usio heta było adnak tolki pyłam u vočy dla tych, chto nia śmieŭ bačyć schavanaj hulni... My jaje bačyli prad „reformaj" i ab hetym adkryta havaryli. A siahońnia ŭžo jość nia dvuznačnyja dokazy, što my nia mylalisia.

Hazety pryniaśli viestku, što Ziemlarobskija Pałaty, razam z kooperatyŭnymi centralami, padali ŭ Ministerstva Ziemlarobstva supolnuju prośbu ab „kredytach (pazyčkach) na razbudovu kooperatyŭnaha małačarstva". Što heta znača?

Heta znača, što sposab viadzieńnia haspadarki ŭ kooperatyvach nie źmianiŭsia. I dalej, jak dahetul, „włastimuščije" chočać pad vidam kooperacyi haspadaryć na šyrokuju ruku čužymi hrašmi, sabranymi jak padatki i z usiaho našaha sialanstva.

Ci-ž heta zapraŭdnaja kooperacyja, jakaja maje „apiracca na svaich sobskich nahach"? Nie, heta karyhodny apetyt na čužy hroš, na čužy mazol. Da takoj kooperacyi nia možna mieć davieru. — A kali ahlanucca ŭzad, dyk zapraŭdy treba zhadzicca z tymi, jakija ćvierdzili, što „reformatary" kooperatyŭnaha zakonu ad samaha pačatku nia byli ščyrymi: im chaciełasia tolki palicyjnymi mierami dakučyć, a dzie dasca dyk i złamać nadziejnyja zarodki kooperacyi niapolskaj, katoraj nie mahli pieramahčy realnaj pracaj kooperatyŭnaj.

Nia možna hetaha zabyvacca.

**Lannoje siamieńnie padaražeje.** Hetak prynamsia pišuć hazety i tłumačać heta tym, što ŭrad maje byccam zmusić alejarni vykupić usio siamieńnie z nutranoha rynku. Dziela taho, što ŭ takim vypadku alejarniam byli-b nakinieny vyšejšyja ceny, alejarni hetyja sami byccam majuć paśpiašycca z vykupam. Jak tam u kancy z usim hetym budzie, ciažka pradbačyć. Ale chto tolki moža niejak vytrymać, dyk varta pačakać i z vyvazam siamieńnia na rynak za biascen — ustrymacca.

> Śv. ✝ p.
> **JAN VASILEŬSKI**
> daŭhaletni i achviarny pracaŭnik na nivie kooperacyi, pa doŭhaj i ciažkaj chvaro bie na zapaleńnie nyrak, pamior dnia 27-ha červienia 1935 h. ŭ Biełastoku, hdzie i pachavany.
> Viečnaja pamiać!

**Novy zakon ab nadzory nad hadoŭlaj karoŭ, śviniej i aviečak.** Ziemlarobskija pałaty atrymali ad Ministerstva Ziemlarobstva prava vydavać paśviedčańni dla raspłodnikaŭ — buhajoŭ, knuroŭ, baranoŭ —, jakimi možna pakryvać damovuju žyviołu praznačanuju da hadoŭli.

Pavodle ŭspomnienaha zakonu, pakryvańnie čužych karoŭ, śviniej i aviečak dazvolena tolki takim raspłodnikam, jakoha pryznaje hetak zvanaja Kvalifikacyjnaja Kamisija dla danaha vokruhu. Raspłodnikam „uznanym" moža być buhaj, što skončyŭ 15 miesiacaŭ, knur — 6 miesiacaŭ, baran — 3 mies. Usiaki, chto maje takoha raspłodnika, i choča dastać prava „uznańnia", toj musić paviedamić ab hetym hminu, jakaja i naznača čas, kali treba budzie takoha raspłodnika pakazać „Kvalifikacyjnaj Kamisii". Tyja raspłodniki, što ŭpisany ŭ knihu žyvioły zavodnaj („zarodowej"), nie patrabujuć być zapisvanymi ŭ hminie.

Za niajaŭku raspłodnika ŭ svaim časie ŭ hminu, abo niepastanoŭku zajaŭlenaha raspłodnika pierad Kvalifikacyjnaj Kamisijaj, za pakryćcio čužoj žyvioły „niauznanym" raspłodnikam, za biaspraŭnaje vydavańnie radavodaŭ abo paśviedčańniaŭ ab pakryćci, urešcie za biaspraŭnaje ŭžyvańnie nazovu „obora zarodowa" (stada zavodnaja) zakon pradbača karu da 300 zł.

# Сельская гаспадарка.

## Прад укладаньнем вымалачанага збожжа.

Сучасная гаспадарчая палітыка паставіла збожжа ў „шэры кут.“ Вымагаюць гэтага сяньняшнія рыначныя цэны і з гэтым трэба згадзіцца. Але збожжа было, ёсьць і астанецца расьлінай беларускіх палёў. А што яно сягоньня „не аплачваецца,“ дык прычына гэтага між іншым у тым, што нашы людзі ў большасьці выпадкаў ня ўмеюць выгадаваць добрага рыначнага тавару і нядбала яго перахоўвуюць. Аб сяўбе жыта і першым даглядзе яго на полі, мы пісалі ў апошнім нумары «Самапомачы.» Сягоньня-ж скажам пару слоў аб перахаваньні.

Найлепшае перахаваньне усякага збожжа і наагул ураджаю — гэта пэўная страта; раз большая, раз меншая. І роль чалавека агранічваецца да таго толькі, каб гэтыя страты былі як можна меншыя. Гэтак разумеючы справу, заграніччныя земляробы малоцяць збожжа зразу з поля і зараз-жа або яго прадаюць, або толькі аддаюць на перахаваньне ў супольныя склады, якія маюць усе машыны, снасьць, а перад усім прастор і адпаведна вывучаных людзей, якія гэтак змагазынаванае збожжа даглядаюць. Гаспадарчыя і кліматычныя варункі, у якіх жыве беларускі Народ, не пазваляюць яму гэтак разьмеркаваць свой ураджай. У нас малацьба гэта работа зімовых раніц і цэлых дзён. Да гэтага-ж часу збожжа змушана ляжаць у торпах у саломе, дзе на яго чакае адзін небясьпечны шкоднік — мышы. Спосабаў на гэта зусім пэўных няма. Доступ катоў у гумны тут аднак многа знача. Іншыя ўзноў гаспадары нашы вельмі хваляць траву „дзіван,“ якую, калі палажыць паміж снапоў збожжа, дык мышы быццам гэтага збожжа не крануць.

Але на збожжа чакаюць шкоднікі і тады, калі яно ўжо вымалачана і ссыпана у розныя схоўкі. Такімі схоўкамі ў нашых гаспадарках зьяўляюцца: кублы, скрыні, бочкі, гаруды і звычайныя мяшкі. Аб перахоўваньні збожжа вольна рассыпанага на чыстай падлозе, у дробных гаспадарках няма і мовы: кожны гаспадар паасобку на падобную сыпку ня можа сабе пазволіць, а ўстроіць яе на спосаб супалкі — адну сыпку на цэлае сяло ці нават воласьць — таксама перашкаджае нястача сьведамасьці. Дык хоцькі-няхоцькі, трэта мяркаваць, як добра перахаваць збожжа спосабамі ў нас практыкаванымі і дасгупнымі.

Перахоўваньне вымалачанага збожжа ў кублох, гарудох і г. д. бароніць ад такіх шкоднікаў, як мышы, але выстаўляе на небясьпеку тухласьці. А з затухлага збожжа няма ўжо ані добрага тавару на рынак, ані здаровага корму нават для хатняй жывёлы. У сьмяцьцё аднак высыпаць такое затухлае збожжа таксама ня можна. Добрага тавару з яго ўжо ня будзе, але тухласьць да пэўнай меры можна адцягнуць, закопываючы ў прыпсаванае збожжа кошык да паловы

---

## Sakret Słovenii.

Kali nia ličyć pałabskich słavian i łužyčan, dyk słavincy, žychary Słovenii, heta najmienšy słavianski narod. Ale jak-ža cikavy!..

Słovenija (inakš — Słavonija) znachodzicca na paŭdni Eŭropy, na pahraniččy Aŭstryi i Italii. Da Suśvietnaj vajny ŭsia Słovenija naležała da Aŭstra-Vuhryi, a pa vajnie bolšaja častka jaje (16.000 kv. klm. abšaru z 1.056.000 žycharami) ŭvajšła ŭ skład novaha haspadarstva (dziaržavy) Juhasłavii, dzie znachodzicca i pa siahońniašni dzień. Akramia, taho kala 400.000 słavincaŭ zachapiła i mocna trymaje Italija. Ab hetaj čaści słavincaŭ my tut možam skazać tolki hetulki, što cierpiać jany tam z boku italjanskaha fašyzmu nadta šmat kryŭdy. Italjancam hety słavinski kusok vielmi łasy; ale pry vysokaj kultury i śviedamaści samych słavincaŭ, jon usio-ž ciažka dastupny: pažadajma, kab jon „dastupnym“ dla čužoha apetytu nikoli nia staŭsia i dačakaŭsia lepšych časaŭ!

Tut majem naŭviecie čaść Słovenii, što tvoryć składovuju čaść Juhasłavii.

Vyšej my nazvali słavinski narod „cikavym“. Čamu? Bo pry hetkaj małoj ličbie, jon pradstaŭlaje saboj **vialikuju siłu duchovuju i haspadarčuju**. A ludzi, što hety kraj adviedvali i paznali, zhodna kažuć, što „małaja Słovenija moža być prykładam dla nie adnaho vialikaha haspadarstva“... Šyrejšy adkaz na heta pytańnie znachodzim u novavydadzienaj knižcy dyr. K. Vyšamirskaha, jaki piša:*)

„Słavincy, spačatku hałoŭnym čynam klerykalnyja palityki, a lepš kler (usie słavincy — r.-kataliki — *A. K.*) bačyŭ i razumieŭ, što kali siało nia budzie mieć mahčymaści zdabyć aśvietu čytańniem časapisaŭ, hazet i knižak, dyk ab nijakim postupie na siale, a tak sama ab nijakaj stałaj palitycy nia moža być movy; bo siało, jakoje nia čytaje, heta zvyčajnaje stada baranoŭ, jakoje dajecca zastrašyć i vadzić za nos ludźmi časta najhoršaha hatunku, najhoršymi demahohami, jakija raz prychodziać z pachlebstvam, inšy raz hroziać, a najčaściej hetu niačytajučuju masu ašukivajuć.

*) „Życie wsi jugosłowiańskiej“ 1935 h.

напоўнены нягашанай вапнай. Лепш аднак і лягчэй да тухласьці наагул не дапусьціць. Дзеля ґэтага трэба ссыпаць толькі збожжа зусім сухое, а пасьля найменш што тыдзень прабаваць рукой, ці не саграваецца. — Тамжа, дзе збожжа ляжыць тонкім пластом вольна на падлозе, там трэба яго найменш раз у два тыдні пераварачваць дзераўлянай лапатай („шуфляваць").

Урэшце трэба ўспомніць і аб вялікай небясьпецы для магазынаванага збожжа з боку розных жучкоў і матылькоў. Да ліку такіх трэба аднесьці чорнага збажжовага жука і збажовую моль. Самка жука (удоўжкі мера ўсяго 5—6 мм.) праколывае сваім носікам кожнае зярнё і складае туды па аднаму яечку, з каторых пасьля выходзіць рабачок, які і выядае ўсё зярнё, а пасьля хаваецца ў шчэлачкі будынку, дзе дасьпявае на жука і далей шкодзіць. — Збажжовая моль гэта малы, белы, з шэра-бурымі кропкамі матылёк, самка якога ад траўня да ліпня ўключна складае па аднаму яечку на зярнё. З яечка выклюваюцца рабачкі, каторыя самі ўжо дастаюцца ў зярнё, нішчаць яго і пасьля таксама ў шчэлачках дасьпяваюць.

Супроць гэтых шкоднікаў, якія нішчаць найбольш збожжа вольна рассыпанае, стасуюцца розныя дарагія атруты (дэзынфэкцыя), але ў варунках дробнагаспадарскіх тут можна радзіць толькі ўспомненае ўжо шуфляваньне ды **чыстае ўтрыманьне сыпкі — магазыну**. Прад тым, як насыпаць збожжа, трэба такую сыпку старанна вычысьціць, усе шчэлачкі у падлозе, сьценках і столі, у каторых дасьпяваюць шкодныя жукі і молі, пазамазываць глінай, а сьцены і столь пабяліць вапнай. Канешна!

**С. Я—віч.**

# З бульбы бліны, з бульбы каша...

Ведамая шырака наша прыпеўка аб бульбе мае свае глыбокія прычыны. Прырода не абдзяліла Беларусі глыбокім ураджайным чарназёмам, прыгодным пад цукровыя буракі і пшаніцу, але дала нам досыць лёгкіх супясковых глеб, на якіх, пры адпаведным даглядзе, можа радзіць бульба самых смачных гатункаў. Не пара цяпер гаварыць аб спосабах гадаваньня тых ці іншых гатункаў бульбы: аб гэтым была мова вясной. Цяпер-жа час падумаць аб тым, як выгадаваную бульбу **сабраць і перахаваць**. Пачнём па парадку ад капаньня бульбы.

Да часу, пакуль бульбоўнік зялёны — бульба расьце. Капаць дзеля таго бульбу можна толькі тады, калі бульбоўнік ужо ня толькі павяў, але і пасох. Тады толькі бульба сьпелая і ў ёй сабрана найбольш спажыўнай сухой масы. Акрамя таго толькі добра высьпеленая бульба дае добрае насеньне і добра перахоўвуецца.

Гэтулькі аб сьпеласьці бульбы. Другой важнай справай, ад каторай залежа добрае перахаваньне бульбы, ёсьць пагода: добра і доўга перахоўвуецца толькі бульба выкапаная за суха. Калі-ж пара капаньня ўжо надыйшла, а на дворы непагадзь (дождж), дык, пэўнаж, бульбу і тады капаць трэба, але ніколі ня можна яе проста з поля ссыпаць у месца празначанае на зімаваньне. За макра выкапаную бульбу трэба наўперад пасыпаць у правеўным, але ад макра забясьпечаным месцы, напрыклад у пуні, у гумне на таку, у сянёх і г. д.

---

Dziela hetaha... palityčnyja partyi, hałoŭnym čynam klerykalnaja i ahrarnaja, išli z saboj navypieradki ŭ pracy nad tym, kab u siało dastałasia najbolš karysnych časapisaŭ i knižak. Słaviniec — kooperatar zaŭsiody jość dobrym vychavaŭcam i viedaje, što panskaja łaska jeździć na rabym kani. Słaviniec viedaje, što darmovaja hazeta ci knižka nia mohuć mieć bolšych vartaściaŭ, a časta navat i škodnyja. Tamu słavinski sielanin... i spravu vydaviectva časapisaŭ, hazet i knižak ustaviŭ u ramy kooperacyi.

Hałoŭnymi vydaŭcami, a tym samym i čytačami źjaŭlajucca siabry vydavieckaj kooperatyvy.

Ahułam u 1932 h. vydavieckija kooperatyvy ŭ svaich radoch mieli 130 000 siabroŭ, heta znača, što kožny 13-ty słaviniec jość siabram vydavieckaj kooperatyvy.

Usie vydavieckija kooperatyvy vydali dla svaich siabraŭ 640.000 knižak (za hod—? A K.), abo na kožnaha druhoha słavinca vypadaje ŭ siarednim adna knižka.

Aprača vydaviectvaŭ u padpiscy, nia ličačy časapisaŭ palityčnych i fachovych, było vydana 498 roznych knižak — abličajuć, što ŭ siarednim kožnaj knižki było pradadziena 5.000 ekzemplaraŭ, abo 249.000 ekz. Znača razam, zaakruhlajučy, u praciahu adnaho hodu na Słovenii było pradadziena 900.000 ekz. Na adnaho čałavieka, ličačy ŭžo ad 6-ha hodu žyćcia, vypadaje adna knižka. Knižki hetyja apisvajuć hałoŭnym čynam spravy fachovyja; častka ich heta pavieści (beletrystyka) i h. d., ale nie zaličvajucca siudy školnyja padručniki. Akramia taho vychodzie ŭ Słovenii kolki štodzieńnikaŭ, tydniovikaŭ. Zachodziačysia ŭ sialanskija chaty, usiudy možna bačyć biblijateki i hazety, pieravažna kooperatyŭnyja ci ziemlarobska-aharodnickija.

Pry hetaj akazii treba zaznačyć, što anivodnaja vydavieckaja kooperatyva nie karystaje z dapamohaŭ. Usie vydaviectvy jšče prad vydańniem zhary ŭžo apłačanyja...

Padpisku časapisaŭ i knižak pryjmajuć davieranyja asoby z asobnych siołaŭ; da hetych davieranych ludziej i vysyłajucca ŭsie knižki dla paasobnych padpiščykaŭ, što značna źmianšaje košty pierasyłki"...

Калі надвор'е пазваляе (ня лье дождж), дык зразу-ж на полі трэба ўсю выкапаную бульбу перабраць, адбіраючы асобна наўперад бульбу хворую, надгніўшую, пакалечаную (парэзаную, пацёртую), асобна — дробную, асобна — здаровую празначаную на скармленьне (на стале і ў хляве) і асобна бульбу празначаную на садзьбу.

У непагадзь, калі ўвакруг мокра, гэткім перабіраньнем на полі ня можна займацца— яго трэба адлажыць да часу, калі бульба абсохне пад страхой.

А цяпер надыходзе чарга на самае ўкладаньне бульбы на зіму. Абшырней аб гэтым пісала „Самапомач“ летась (№ 10/1934 г). Тут дзеля таго прыпомнім толькі найважнейшыя мамэнты.

Дзе б і як не перахоўвалася бульба, заўсяды можна да гэтага браць толькі бульбу **сухую і здаровую.** Зразу з восені ня можна бульбу „закарковываць“ ад доступу паветра, бо ў гэту пару бульба йшчэ вельмі „пацее“. І калі ня даць вольнага адплыву для выпацеўшай пары, дык уложаная бульба станецца мокрай і пры цяпле пачынае гніць. З другога боку ня можна аднак забывацца і аб тым, што праз меру жывы доступ вольнага паветра да бульбы пабуджае яе вельмі доўга да сільнага дыханьня, ад якога таксама бываюць страты, хоць і меншыя. Можна прыняць за правіла, што пакуль тэмпэратура не абніжыцца над 6°Ц, датуль можна й трэба ўтрымліваць вольны доступ паветра да бульбы. Пры тэмпэратуры ніжэйшай як 6° Ц бульба пачынае саладзець, пры — 1° Ц пачынае мерзнуць, а пры — 3° Ц і зусім зьмярзае. З другога ўзноў боку — ужо пры тэмпэратуры 10° Ц— бульба пачынае псавацца. Дзеля таго „залатой сярэдзінай“, якая найбольш прыдатная да перахоўваньня бульбы, ёсьць тэмпэратура 6—8° Ц.

Урэшце слоў колькі аб салодкасьці й змарожаньні бульбы. Агульна думаецца, што салодкасьць і змарожаньне бульбы гэта тое самае. Гэта ня праўда. Ссаладзелая бульба ня ёсьць яшчэ змарожанай. Відаць гэта ўжо з паказанай вышэй тэмпэратуры, пры якой бульба пачынае саладзець і пры якой— мерзнуць. Саладзее бульба ад таго, што цукар не пасьпявае ператварыцца ў крахмал, а пры змарожаньні нішчацца самыя бульбяныя клеткі. Падчас, калі бульбе асаладзеўшай можна йшчэ павольным адаграваньнем вярнуць звычайны ейны смак, зьмерзлая бульба ўжо ніяк адратавацца ня дасца. Покуль яна зьмерзлая, можа йшчэ перахоўвацца. Але як толькі пачне адмярзаць, яе трэба з а р а з - ж а або варыць (парыць) і скармліваць або консэрваваць (заквашываць).

*а. к.*

## ДА ЧЫТАЧОЎ „САМАПОМАЧЫ“

**Беларускае друкаванае слова ў справе пашырэньня роднай культуры адыгрывае нязвычайна вялікую роль. Памажэце будаваць беларускую гаспадачую культуру! Памажэце вышуківаць чытачоў і падпішчыкаў „Самапомачы“!**

*Рэдакцыя «Самапомачы».*

* * *

Jak-ža zapraŭdy pavučalna vyhladaje heta sprava ŭ našych dalokich pa prastoru, ale blizkich pa kryvi bratoŭ slavincaŭ!

Sprava ŭciahvańnia j pryzvyčajvańnia šyrokich narodnych mas da čytańnia dobraje knižki i ŭ nas biełarusaŭ na zachad ad Ryžskaj miažy maje siahońnia vyniatkava važnaje značeńnie. Biełaruskaja knižka, hazeta heta adzinaje ŭ siahońniašnich varunkach złučvo, adziny sposab abmieny dumak, adziny ŭrešcie sposab navučańnia i samanavučańnia.

Ale hety prykład tady tolki dašć płady, kali jaho stasavać u žyćci. Prosta kopijavać (fatahrafavać) i nasadžvać jaho ŭ nas siahońnia nia možna, bo tut niama varunkaŭ da vol naha kooperatyŭnaha žyćcia. Kooperacyja adnak heta tolki sposab; metaj-ža tut jość planovaje pryvučańnie i ŭciahvańnie šyrokich narodnych masaŭ da **śviedamaha čytańnia svaje rodnaje knižki, svajho časapisu.** Raniej ci paźniej pryjdzie i ŭ nas para na sposab koperatyŭny; u heta vierym. Siahońnia adnak, kali na hetki sposab nia spryjajuć nam niezaležnyja ad nas vonkavyja varunki (sučasny polski kooperatyŭny zakon), treba zvaruchnuć da žyviejšaj pracy ŭsie čynnyja i pabudzić utojenyja narodnyja siły, kab:

1. razam vykarystać vydańni ŭžo hatovyja;
2. daviedacca, jakich knižak i časapisaŭ naša siało patrabuje;
3. razam i ŭadzinočku prystupić da źbirańnia kampletaŭ achvotnych čytačoŭ.

Nadychodziačaja vosień i zima heta čas dla takoj raboty vielmi adpaviedny, a sama rabota vielmi ŭdziačnaja. Bo kali ŭsie vonkavyja siły zdajecca byccam sprehlisia na niadolu našaha Narodu, nam usio-ž astajecca jšče skromnaja mahčymašć zdabyvańnia za hety čas viedy praz samaadukacyju, praz knižku i hazetu. Siły na heta ŭžo jość, a achvota da čytańnia taksama nie małaja. Treba ŭsio heta tolki z saboj sprehčy i vykarystać. Padrastajučaja moładź na vioscy tady pierastanie dzičeć(!), a pracazdolnaja intelihiencyja nia budzie haładavać i marnieć ad biezraboćcia. Vialikaja heta sprava i — **pry dobraj voli** — mahčymaja!

*A. K—p.*

# Галоўныя абмылкі пры гадоўлі кароў.

Найважнейшай крыніцай даходу ў малазямельнай гаспадарцы ёсьць гадоўля малочных кароў. Вельмі добра гэта знаюць сяляне, дзе ёсьць малачарня. Ці запраўды малочная скаціна дае даход? А калі дае, дык чаму ня ўсе сяляне выкарыстываюць гэту галіну гаспадаркі. Кантрольнае таварыства малочнасьці ў адным сяле напр. чорна на белым паказала, што некаторыя каровы, гадаваныя правільна паводле гадаўляных нормаў, далі за год чыстага зыску 136 зал. Іншыя, гадаваныя ня зусім правільна, далі зыску найбольш 64 зал.; іншыя ўзноў, гадаваныя звычайным спосабам, далі за год страты аж да 44 зал. Якая прычына такой розьніцы? Адказ просты: няўменьне гадаваць як трэба жывёлу.

Гадоўля малочных кароў у нас вельмі мала пасунулася наперад... Напрашваецца пытаньне: чаму так ёсьць?—Таму, што гаспадары, з малымі выняткамі, не разумеюцца на гадоўлі жывёлы, асабліва малочнай. Блізу ўсюды бачым, як да бугая прыводзяцца маладыя ялаўкі, якія выглядаюць як цяляты.

Шкадуе селянін вельмі часта грошаў на добрага бугая і найлепш бывае задаволены, калі карова нейдзе на пасьбішчы сама пабегаецца.

Далей, спатыкаем маладыя цяляты, кепска гадаваныя каровы, асабліва малочныя, кепска кормленьня, нават галадуючыя. Хлявы малыя, няпрытульныя, без вэнтыляцыі (праветраваньня), няма там сьвятла і паветра. Пры гэткіх варунках гадуецца ў нас малочная карова і ўсё гэта вельмі шкодна ўплывае на здаро'е жывёлы. Калі йшчэ ўспомніць нястачу пашы, бруд у хляве, дык будзем мець абраз нашай гадоўлі.

Ад гэтак гадаванай каровы ня можна дамагацца даходу.

Цяпер каротка абгаворым усе тыя абмылкі, якія робім пры гадоўлі малочных кароў.

**1. Кепскі падбор штук да гадоўлі.** Выбар каровы да гадоўлі (на племя) ёсьць рэчай вельмі важнай. Трэба зьвярнуць увагу на яе малочнасьць, мусіць яна паходзіць ад малочных бацькоў, мусіць быць здаровай, мець добрую будову. Каб праверыць ужытковую вартасьць нашых кароў, найлепш завясьці кантроль малочнасьці, або самому вясьці пробныя ўдоі і азначаць % тучнасьці (клустасьці) ў малацэ.. Кантроляй малочнасьці можам вылавіць найлепшы раслпадовы матар'ял і гэткім спосабам дайсьці да найбольш малочных кароў.

**2. Ужываньне неадпаведных расплоднікаў да расплоду.** Ведаем, што ўласьцівасьці кожнага зьвяраці спадкаемныя ня толькі па матцы, але й па бацьку. Можам мець вельмі малочную карову, але калі пакрываем яе бугаём ад немалочнай каровы, дык цялё будзе менш малочнае, чым ейная матка. Таму на расплоднікаў трэба зьвярнуць вялікую ўвагу.

**3. Кепскі дагляд за цялятамі.** Хоць-бы цялё й паходзіла ад добрай малочнай каровы і ад добрага бугая, але калі яно дрэнна гадуецца, не даглядаецца — ня можна спадзявацца ад яго добрай каровы.

Маладняк мусіць быць разумна кормлены. Перш за ўсё цялё, якое прызначаецца на плем, павінна важыць пры нараджэньні каля 35 кілё (пры нашай дробнай скаціне можна здаволіцца і 25 кілё — $1^1/_2$ пуда — *рэд.*). Гадоўля цяляці пачынаецца з таго, што яму пазваляем або да сыта ссаць карову, або паіць яго штучна поўным малаком, або ўрэшце пазволіць два тыдні ссаць, а пасьля паіць з рукі. Першы спосаб ёсьць добры, але няма пры гэтым кантролі, колькі малака вып'е цялё. Часта здараецца, што цялё перап'ецца, хварэе, або й згіне. Найлепшы спосаб быў-бы трэці, але трэба ўважаць, каб з малаком чыста абходзіцца. У першым годзе трэба цяляты гадаваць вельмі інтэнсыўна (сільна карміць), не забываючыся, аб добрым сене, моркве, тоўчаным аўсе і інш. Улетку цялё мусіць мець добрае пасьбішча і дадатковае падкормліваньне у хляве. На плем трэба браць цяляты васеньнія і зімовыя, бо па 5—6 месяцах іх можна ўжо выганяць на пасьбішча, а там маюць рух, сонца і паветра.

**4. Неадпаведная гадоўля кароў.** Гадоўля малочных кароў ня ёсьць рэчай лёгкай, тут трэба мець крыху практыкі і веды. Тут ужо трэба прачытаць не адну кніжку, або часапіс— трэба часта радзіцца з фахоўцам. Наўперад патрэбна добрая смашная паша, якая мае ў сабе складнікі канешныя дзеля пражыцьця самой жывёлы і дзеля выпрадукаваньня малака. Другім чыньнікам ёсьць улажэньне штодзенных кармовых порцый, каб не даваць аднэй пашы за шмат, і яна ня была-б выкарыстана, а іншай — за мала. — Далей, падаваць пашу трэба стала ў азначаную пару, бо і гэта мае ўплыў на збольшаньне малочнай прадукцыі. Ня можна даваць пашы стухлай, а тымбольш гнілой, надапсутай, зьмерзлай.

**5 Кепскія хлявы.** Хлявы маюць вялікі ўплыў на здароўе жывёлы, а тымсамым і на прадукцыю малака. Два разы ў год хлеў мусіць быць пабелены, жлабы штодзень трэба чысьціць, вокны павінны даваць досыць сьвятла, вэнтыляцыя (праветрываньне) канешна мусіць быць.

Вось колькі заўваг ды абмылак аб нашай гадоўлі малочнай жывёлы. Калі хоць-бы часткова пастараемся іх пазбыцца, дык даходнасьць гэтай гадоўлі падыймецца, а тымсамым падыймуцца і даходы гаспадаровы.

**Інж. Р. Г.** („*Сіль. Госп*")



# Аб заразных хваробах курэй.

Сталы, хоць дробны, даход з гадоўлі курэй і наагул хатніх птушак што раз больш узахвочвае нашых гаспадынь да шырэйшай „курынай гаспадаркі". Забываюцца пры гэтым людзі, або зусім ня ведаюць, як небясьпечнымі ў такіх выпадках бываюць розныя заразныя хваробы, якія часта нішчаць усё дашчэнту. Найнебясьпечнейшымі такімі хваробамі зьяўляюцца: халера, мор, менш—вапнянка ног і заразны катар.

1. **Халера** курыная шырыцца пры пасрэдным ці беспасрэдным стыканьні з заразай. Тут небясьпечны: корм і вада з дамешкай гною курэй хворых на халеру; пераносяць хваробу і мухі, што кормяцца на незакапаных і наагул старанна ня прыбраных падлах. У жаўтку яёк ад курэй хворых на халеру часта таксама знаходзяцца зародкі халеры. Курыца хворая на халеру бывае сумнай, наежанай, грэбень цямнее, крыльля апускаюцца, смагне (усьцяж п'е), цяжка дыхае, аж храпе; да гэтага даходзіць нястраўнасьць, якая аканчальна аслабляе хворую штуку і яна найчасьцей (з 10-х хворых курэй выздараўлівае звычайна толькі адна) гіне.

*Лячэньне* супроць халеры дагэтуль, можна сказаць, не дало наагул добрых рэзультатаў. Адно толькі шчапеньне **сыравіцай**, да таго — трэйчы паўторанае, бароніць праз паўгоду курэй ад халеры. Але й ня танна яно каштуе.

2. **Мор**. Азнакі гэтай хваробы тыя самыя, што і пры халеры, толькі йшчэ вастрэйшыя, а пры гэтым няма нястраўнасьці. Супроць мору курэй, трэба сказаць, што навука дагэтуль яшчэ больш бязрадная, як проці халеры: нават ня знае ніякага шчапеньня.

3. **Вапнянка ног.** Прычынай гэтай хваробы ёсьць малы чарвячок, якога голым вокам чуць-чуць толькі можна заўважыць. Ён вельмі аднак рухлівы і таму лёгка пераносіцца з аднае штукі на другую і асядае на месцы вольным ад апераньня. З часам гэтак заражаныя ногі курыцы пачынаюць грубець, а тымсамым і цяжэць, курыца пачынае церабіцца і кульгаць.

*Лячэньне* ад вапнянкі мае за заданьне распусьціць і сьцягнуць вапняныя наросты. Дзеля гэтага хворыя ногі намазываюцца нанач шэрым мылам і завіваюцца чыстай парцянкай. На другі дзень гэта абвязка здыймаецца, самі звапнелыя ногі мочацца ў цёплай вадзе й асьцярожна здыймаюцца наросты. Калі гэтыя наросты йшчэ цьвёрдыя, дык іх сілай зьдзіраць ніколі ня можна: іх трэба ўзной намазаць шэрым мылам і наагул паступаць так, як вышэй паказана. Пасьля таго, як звапнелыя наросты здыймуцца, у хворыя ногі ўціраецца вазэліна з дадаткам 15 прац. крэоліны.

4. **Заразны катар** сам па сабе ня ёсьць яшчэ небясьпечным. Горш толькі з тым, што гэты катар найчасьцей пераходзіць у сьмертаносны дыфтэрыт.

Заражаюцца куры таксама пашай і вадой, што прад тым былі заражаны выцякаючай з носу хворых штук цягучай плыўкасьцю. Курыца, заражаная катарам, мае пад вачыма пухліну, з вачэй плывуць сьлёзы, трасе галавой і „чхае".

*Лечыцца* хворая на катар курыца тым, што горла шмаруецца 2 прац. рашчыны пioктаніны; у вочы і ў горла двойчы ў дзень упырсківаецца па 2—3 каплі ½ прац. рашчыну протарголю, а галава абмываецца 3 прац. рашчынам борнага квасу. Зразумелая рэч, што хворыя штукі мусяць быць аддзелены ад здаровых, а да пітной вады для хворых штук дадаецца гэтулькі сольнай кісьлі, каб вада мела лёгка кіслы смак.

5. **Белая нястраўнасьць у куранят.** Азнакі хваробы такія: куранё траціць смак, ня есьць, а праз тое самае і слабне, пер'е становіцца „шаршнём", самыя кураняты жаласна пішчаць і па 3-х днёх (часта і хутчэй) гінуць. Старыя куры таксама хварэюць на гэта, але ператрымоўвуюць хваробу, разносячы толькі яе і заражаючы слабых куранят. Заразныя бактэрыі гэтай хваробы знаходзяцца галоўным чынам у яйкаводных ворганах, таму і самыя яйкі такіх курэй бываюць ужо заражыя і з іх родзяцца ўжо хворыя куранята.

Аб лячэньні куранят ня можа быць мовы: трэба толькі да насаджываньня курыцы браць яйкі ад курэй бясьпечна здаровых, а хворых куранят зразу адбіраць, каб хвароба не перанасілася на ўсё гнягдо

В. Ч.

# Гадуйма сваё насеньне!

Маю тут наўвеце памідоры і агуркі, спажыцьцё якіх і ў нас апошнім часам значна павялічваецца. У меру гэтага павялічваецца аднак і цана на насеньне гэтай агародніны, так што гаспадыні ўсё гэта даволі дорага каштуе, а найгорш тое, што купляючы насеньне ў розных перакупшчыкаў, ня ведае, што запраўды купляе. Таму трэба насеньне загатаўляць у сябе дома.

Памідоры празначаныя на насеньне найлепш так доўга трымаць (сьпяліць) на каліве, як доўга яны там трымаюцца. Дасьпеліваюцца зьнятыя памідоры на акне датуль, аж пакуль не пачнуць раскладацца. Тады з памідору такога здыймаецца верхняя плеўка і ўвесь верхні мяккіш, у каторым няма зярнят. Рэшта ўкладаецца ў міску з вадой, расьціраецца і гэтак пакідаюцца на 3—4 дні: пасьця гэтага зярняты даюцца лёгка аддзяліцца ад мяккіша, прамываюцца — на сіце — вадой; вольна сушацца на сонцы, ці так у сухім правеўным месцы (толькі не

# Як пазбыцца гнільца.

Гнілец гэта вельмі заразная і небясьпечная хвароба чэру, якая можа зьнішчыць усю пасеку. Прычынай хваробы ёсьць тры галоўныя бацылы: *Bacillus alvei, Bacillus larvae і Bacillus pluton*. Першыя два бацылы нападаюць чэр някрыты, а апошні, званы так-жа брандэнбурскім, нападае чэр крыты.

У вульлі, дзе загнезьдзіўся гнілец, чэр замірае, перамяняючыся ў пустую, клейкую, спачатку жаўтава-шэрую а пасьля чарнявую масу, якая выдае з сябе вельмі няпрыемны запах, падобны да запрэлай на назе анучы. З часам гэта жоўта-брудная маса ссыхаецца на чорны камочак, які ляжыць не на дне, але на бакавой сьцяне чарачкі (каморкі) воску. Заражаныя гнільцом чарачкі воску можна пазнаць па тым, што сярод крытых чарачак, ёсьць някрытыя, у каторых замест здаровых бела-жоўтых чарвячкоў, знаходзіцца шэрая сьмярдзючая маса. Крыты заражаны гнільцом чэр мае пачарнелае, упаўшае і прадзіраўленае века.

Самі пчолы проці гнільца ня маюць ніякай рады, а зародкі хваробы (бацылы) распаўзаюцца ўсюды па вульлі: іх пэўна ня толькі ў чэры, але й на вашчыне, у мёдзе, на рамках і на сьценах вульля, на самых пчолах і ў іхняй сярэдзіне (у кармавым апараце). Хворая пчала заражае ўвесь чэр, а сама з часам слабее, перастае вылятаць на работу і гіне. З заражанага вульля хвароба хутка пераносіцца на вульлі суседнія, здаровыя і іх таксама заражае. Пераносяць заразу хворыя пчолы, пераносіць яе і сам бортнік на сваей адзежы, на руках.

Доўгі час пчаляры ня знали лякарства ад гнільца. Сягоньня мясцамі гэткае лячэньне ўдаецца і выглядае яно гэтак:

Пчолы з хворага вульля перасыпаюцца ў новы, ці ў райніцу, а найлепш у асобную скрынку, куды пасьля пчолы наагул ня будуць мець доступу, бо маглі-б там заразіцца. Гэтак ссыпаныя пчолы трымаюцца два-тры дні, датуль, пакуль ня стравяць усяго набранага мёду. Пасьля такім пчолам даецца рэдкі цукровы рашчын, калі можна—з муравельным квасам і пераганяюцца ў новы, чысты вулей, на сьвежыя рамкі.

Рамкі старыя і ўсю работу з заражанага вульля трэба спаліць. Воск трэба зараз-жаператапіць, але на вузу яго ўжо ўжываць ня можна. Мёд з такога вульля можна скарыстаць, але прад тым трэба яго зьмяшчаць з роўным мноствам вады і павырыць прынамсі праз 15 мінут. Урэшце сам вулей трэба як найстараньней вычысьціць. Наўперад трэба нажом абскрабаць увесь воск і кіт, а пасьля змываць сільным паташавым: лугам на 2 літры вады, 3 кілёграмы паленай вапны і 5 кілёграмаў соды і ўканцы, калі можна, абсмаліць яшчэ ўсю сярэдзіну вульля пры помачы бэнзынавай лямпы, ужыванай пры лютаваньні.

У гэтак вычышчаны вуль можна ўсыпаць пчолы нанова; ня можна толькі туды даваць ані крыхі старой работы. У рамкі улепліваюцца толькі пачаткі зусім пэўна чыстай вузы; рэшту мусяць сабе пчолы дабудаваць самі.

Пры ўсей працы трэба сьцісла захаваць чыстату. Сам хворы вуль пры гэтым трэба аднесьці з пасекі на старану і там усё рабіць, каб ані туды здаровыя ані адтуль хворыя пчолы ня мелі ніякага доступу і не разнасілі хваробы. Пасьля працы трэба зрабіць старанную дэзынфэкцыю як адзежы самага пчаляра, так і ўсіх прыладаў пчалярскіх, што так ці гэтак стыкаліся з заражанымі пчоламі і наагул з хворым вульлём. Самыя адпаўшыя пчолы з вульля нападзенага гнільцом трэба старанна зьбіраць і разам з вадой, якой змываліся вулей, снасьць і рукі, закапаць у зямлі. Усякія адпадкі, сабраныя пры чышчэньні вульля, трэба таксама старанна, чыста сабраць і спаліць або закапаць, бо ўва ўсім гэтым ёсьць поўна заразкаў гнільца. Для пэўнасьці праз тры тыдні пасьля гэтага штодзень падкурываюць лечаныя пчолы параю формаліны, (формаліну можна дастаць у аптэчных складах), каб зьнішчыць тыя заразкі гнільца, якія могуць яшчэ астацца на целе і на валасочках пчолаў.

Адным словам, праца пры выводжаньні гнільца з вульля ёсьць вельмі хлапатліваю. Тым больш дзеля таго трэба сьцерагчыся, каб не занесьці гэтай заразы ў вулей здаровы.

**Ш—к.**

---

на печы), ссыпаюцца ў парцяныя мяшочкі вешаюцца ў правеўным месцы, забясьпечаным ад вогкасьці, мышэй і ўсякіх іншых шкоднікаў. Добра прыгатаванае насеньне памідору захоўвуе сілу ўсходлівасьці 4—8 гадоў.

Прыгатаваньне насенаня агуркоў падобнае да апісанага прыгатаваньня насеньня памідораў. Узятыя пад увагу штукі агуркоў або пераспеліваюцца на градцы, тады разразаюцца ўздоўж, з сярэдзіны выграбаюцца зярняты ў ваду, дзе і прамываюцца. Другі спосаб: з зусім сьпелага агурка лыжкай выбіраюцца зярняты, кідаюцца ў бочку з вадой і мяшаюцца. Па колькіх днёх, калі пачнецца фэрмэнтацыя, зярняты лёгка аддзяляюцца ад мяккіша і ападаюць на дно бочкі. Тады ваду з усплыўшым мяккішам зьліваюць, а зярняты перапалосківаюць і наагул так прыгатаўляюць, як у выпадку першым.

Ня можна пры гэтым забывацаа, што праз меру доўгае трыманьне зярнят у вадзе прадчасна іх пабуджае да прарастаньня і таму яны гінуць.

Зярняты агуркоў захоўвуюць сілу прарастаньня праз 6—8 гадоў, але найлепшыя зярняты 4—5 гадовыя. Аб гэтым трэба памятаць і таму ў кожны мяшочак трэба укладаць картачку з напісам, з якога году дадзенае насеньне паходзіць.

**В. Ш.**

Ф. Акінчыц *У парадку дыскусіі.*

# Аграрна - коопэратыўная палітыка будучыні. 5)

### 3. Агульны кантроль дзяржавы за дзейнасьцю коопэратыўных аб'яднаньняў.

(*Працяг*).

Дальшая небясьпека ў тым, што пры адсутнасьці мэтаадпаведнай коопэратыўнай палітыкі, рост матарыяльнай базы (падставы) коопэратыву будзе адставаць ад росту індывідуальнага дабрабыту сялянства. А для нас першае — рост коопэратыўнай базы — мае аграмаднае значэньне, бо адно падняцьцу індывідуальнага дабрабыту часткі сялянства само праз сябе ня створыць спрыяючых абставінаў для рэканструкцыі (перабудовы), пры каторай толькі і магчыма агульнае палепшаньне жыцьця.

Справе адставаньня беднаты ў коопэратыўным будаўніцтве адводзілася вельмі мала ўвагі ня толькі ў заходне-эўрапэйскай, але і ў савецкай коопэратыўнай літаратуры, а між тым яна заслугоўвае на вялікшую ўвагу.

Аднэй з прычын, якія затрымліваюць коопэраваньне беднаты, ёсьць галіта, каторая не пазваляе выкупіць паевых узносаў, асабліва калі трэба ўступіць у некалькі коопэратыўных аб'яднаньняў адразу. — Акрамя гэтай прычыны, існуюць і іншыя, якія беспасярэдна злучаны з прыродаю самай бядняцкай гаспадаркі. Гэтак, напрыклад, трудна спадзявацца ўдзелу у нейкім малачарскім коопэратыве такой гаспадаркі, якая ня мае ніводнай каровы.

Было-б аднак вялікаю памылкаю з нашага боку, калі-б усе прычыны коопэратыўнага адставаньня беднаты мы зьвялі да прычынаў аб'ектыўнага парадку, абыйшоўшы моўчкі прычыны суб'ектыўныя, палягаючыя на пэўных свомасьцях людзкой натуры.

Калі мы возьмем, напрыклад, Саветы, то пабачым там, што да 1917 году беднаце было вельмі цяжка выбіцца із свайго безнадзейнага гаспадарчага палажэньня. Пасьля рэвалюцыі, бальшавікі, як ведама, апёрліся на сяле на ягоныя нізы і тым самым гаспадарчы стан гэтай часткі насельніцтва часова значна палепшыўся. Калі у многіх выпадках гэткае палепшаньне ня прыходзіла і бедната пастарому аставалася беднатою, то прычыну падобнага зьявішча трэба шукаць у ёй самой, з чым згаджаюцца і савецкія эканамісты.

Уважныя і бесстаронныя досьледы ў гэтай справе прыводзяць нас да вываду, што беднату трэба разьдзяліць на 2 часткі: — адна выяўляе тэндэнцыі (ня толькі ў Саветах, але і ўсюды) да палепшаньня свайго матарыяльнага становішча і адзіны выхад бачыць у ўпартай працы, а другая „апусьціла рукі" і, як напрыклад у тых-жа Саветах, да сяньняшняга дня знаходзіцца пад уражаньнем камунізму падзелу: нічога не рабіла, а толькі падлічала і дзяліла чужое дабро. Гэта апошняя група складаецца пераважна з людзей, каторых вельмі трафна называюць у Саветах „лодырамі", і каторыя існуюць усюды і бязумоўна астануцца з намі і пасьля таго, як мы прыступім да радыкальнай перабудовы ўсяго аграрнага ладу. Тады прыйдзецца лічыцца з імі, як з элемэнтам вельмі шкадлівым і небясьпечным для грамадзкага і эканамічнага поступу.

Бяручы пад увагу Савецкае дасьведчаньне, трудна спадзявацца, каб гэткі элемэнт сьведама прыступіў да коопэратыўнага будаўніцтва, пакінуўшы раптоўна свае антыграмадзкія прывычкі, — дзеля гэтага бязумоўна будзе патрэбны пэўны націск з боку дзяржаўнай улады.

Наагул трэба сказаць, што абавязкам дзяржавы зьяўляецца ўважнае адношаньне да бядняцкіх масаў, каторыя ў працавітай сваёй частцы павінны атрымаць дапамогу дзеля палепшаньня свайго палажэньня, а тая частка, каторую прыйшлося-б залічыць да катэгорыі „лодыраў" — павінна апынуцца пад пагрозаю эканамічных і адміністрацыйных рэпрэсіяў.

У справе ліквідацыі незаможнасьці наагул (што даецца зьдзейсьніць толькі паступова), патрэбна будзе складная сыстэма розных мерапрыемстваў. Наўперад, паважную роль павінны адыграць бядняцкія коопэратыўныя фонды, дзе будуць зьбірацца сродкі на палепшаньне бядняцкіх гаспадарак і на давядзеньне іх да агульнага гаспадарчага роўню.

Зразумела, што адных гэткіх фондаў будзе мала і ў гэтым выпадку выявіцца патрэба дапамогі з боку дзяржавы, — дапамогі пазбаўленай дабрадзейнага характару і маючай выключна гаспадарчыя мэты.

Калі, напр., беднаце выдаецца запамога на набытак малочнага быдла, то трэба дапільнаваць і таго, каб гэтае быдла было выкарыстана па коопэратыўнай лініі.—Выдача пазычак на пасеў павінна быць узалежнена ад уступу атрымліваючага ў адпаведны коопэратыў. — Словам, органы ўлады, якія бароняць інтарэсы беднаты, пры усякім надараючымся выпадку павінны імкнуцца да скоопэраваньня бядняцкіх гаспадарак.

У гэтай справе патрэбна згоднасьць органаў дзяржаўнай улады, дзеючых па зга-

Redaktar-Vydaviec inž. A. KLIMOVIČ
Z upavažnieńnia Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury ŭ Vilni.
Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1—2.



## POTWIERDZENIE DLA WPŁACAJĄCEGO

na wpłatę zł.................................... gr..............

słownie **złotych**

**gr**

na konto czekowe w Pocztowej Kasie Oszczędności

**Właściciel konta:**

**Inż. Adolf Klimowicz**

**WILNO**

**Konto czekowe Nr. 180.485**

*Podpis urzędnika*




P.K.O. Nr. 105

## DOWÓD WPŁATY (DLA ODBIORCY)

Wpłatę zł.................................... gr..............

uskutecznił (a)

...........................................................................

...........................................................................

dokładny adres ...........................................................................

...........................................................................

**na konto czekowe 180.485**




## DOWÓD WPISU (DLA P. K. O.)

Wpłatę zł.................................... gr..............

słownie **złotych**

**gr**

uskutecznił (a)

...........................................................................

...........................................................................

dokładny adres ...........................................................................

...........................................................................

**na konto czekowe 180.485**



Celem dokonania wpłaty blankietem nadawczym winien wpłacający wszystkie trzy części blankietu odpowiednio wypełnić atramentem, drukiem lub pismem maszynowem i oddać wraz z nadawaną gotówką w Urzędzie Pocztowym lub w Kasie P. K. O.

Kwotę cyframi na dowodzie wpłaty należy umieszczać wyraźnie i czytelnie, a miejsce wolne po wpisaniu kwoty przekreślić poziomą linją. Również na potwierdzeniu dla wpłacającego i dowodzie wpisu należy miejsce wolne po wypisaniu kwoty słowami przekreślić poziomą linją.

Blankietów nadawczych z poprawkami lub przekreśleniami przyjmować nie wolno. Również nie przyjmuje się blankietów nadawczych wypełnionych niewyraźnie lub podartych.

Na odwrotnej stronie dowodu wpłaty można umieszczać krótkie zapiski, które są wolne od opłaty pocztowej, o ile wskazują tylko: imię, nazwisko, miejsce zamieszkania wpłacającego, datę wpłaty, sposób zapisania w księgi, cel i tytuł wpłaty.

Za wszelką inną korespondencję na odwrotnej stronie musi być uiszczona opłata pocztowa.

Miejsce na korespondencję do właściciela konta za naklejeniem znaczka pocztowego w wysokości opłaty karty pocztowej.

Рэдакцыя і Адміністрацыя
часопі

P. K. O. nie odpowiada za treść korespondencji, jako od niej niepochodzące.

ры распрацаванаму пляну, бо натугі самых коопэратыўных арганізацыяў, якімі-б энэргічнымі яны ня былі — акажуцца недастатачнымі.

Агулам узята, дзяржаўная ўлада павінна імкнуцца да таго, каб стварыць на вёсцы такія соцыяльна-эканамічныя ўмовы, пры каторых зьліквідавалася-б розьніца ў гаспадарчым палажэньні працоўных элемэнтаў сялянства. Што датычыць элемэнту паразытаў, упарта непрызнаючых арганізацыйнай і працоўнай дысцыпліны, дык адносна іх павінны быць распрацаваны адпаведныя меры маючыя на ўвазе, што гэткі, па сутнасьці сваёй анты-грамадзкі, элемэнт зьяўляецца найвялікшаю перашкодаю да ўсебаковага поступу.

(*д. б.*)

## Наша пошта.

В. Шым—му: „Беларуская Борць" нажаль ужо блізу паўгоду ня выходзіць. З апісаньня Вашага відаць, што ў Вашых пчолах загнезьдзіўся гнілец: папрабуйце, калі ня позна, яго пазбыцца спосабам, які апісаны ў сяньняшнім нумары „Самапомачы," у артыкуле „Як пазбыцца гнільца." Больш даведаецеся аб пчалярстве з „Ziemlarobskaj čytanki," якую Вам можам выслаць, калі прышлецё ў рэдакцыю 1 зл. Цукру безакцызовага можаце дастаць 2 кілё, па 60 гр., на пень пчол. Але з гэтым ня мала хлопату.

Н. Якуб—чу: Ці акуратна цяпер даходзіць да Вас „Самапомач"?

Б. Гр—ку: мы самі хацелі-б мець гэтыя весткі, але іх ня маем, бо ня маем сягоньня ніякага доступу да савецкай фахова-зямляробскай літаратуры. Дзіўна гэта і балюча Акадэмія ў Горы-Горках існуе — мы гэта ведаем з загранічных газэт. Якія земляробскія часапісы цяпер выходзяць у Сав. Беларусі і тым больш, што яны пішаць аб тамашнім гаспадарскім жыцьці, мы таксама ня ведаем. „Самапомач" ад пачатку сёлетняга году пасылаем: пазнайце яе і пазнаёмце з ёй сваіх суседзяў.

Ф. Гр.—чу і М. Ж—му: Коопэратыва, якая або зусім ня была адчынена, або ў працягу пяцёх гадоў ня выказвала ніякай чыннасьці і ня мае ніякіх даўгоў, можа быць выкасавана з судовага рээстру ўпрошчаным спосабам. Дзеля гэтага трэба пісьменна зьвярнуцца да старшыні Кооп. Рады. За свае чыннасьці Кооп. Рада бярэ 60 (шэсьцьдзесят) залатовак.

С. Б—г, Ул. Д—ц, К—ва „Зорка", Гурток БІГіК. у Л.: атрымалі, дзякуем, часапіс высылаем.

В. Карніцкі, Яз. Байда, С. Кот, Ал. Ашмянскі, Р. Рагач, В Пацкевіч. П. Пальчык, Я. Ляткоўскі, Б. Усьціновіч, П. Беганскі — высылаем, чакаем падпіскі.

Ул. Заб—ны: не намаўляем і не абяцаем. Але калі ёсьць у людзей ахвота, дык выкарыстаць можна. „Самапомач" пасылаем. — У Вільні ёсьць толькі сярэдняя агародніцкая школа.

— Ураджай грыбоў сёлета наагул вялікі. Калі-ж у Вас гэтак бывае штогод, дык загадзя трэба думаць аб тым, каб зьбіраньне і сушэньне добра сарганізаваць.

В. Рым—ку: Дык у Вас-жа блізка — у Антанове — ёсьць гадавая гаспадарская школа. Чаму-ж яе ня выкарыстаеце? Там-жа на месцы можаце атрымаць і выразныя рады на Вашыя балячкі. — У школе такой трэба самому добра прыкладацца да працы і ніякай працы ня чурацца.

**U Maładečnie:**

| | |
|---|---|
| Žyta | 7.50— 8.50 |
| Jačmień | 9 00—10 50 |
| Avios | 9 50 -11.00 |
| Bulba | 2.00— 3.50 |
| Siena | 3.50— 4.50 |
| Švini (za kilo žyv. vahi) | 0 60— 0 80 |
| Masła za kilo | 1.80— 2 00 |
| Jajki, za štuku | 4—5 hr. |

**U Niašvižy:**

| | |
|---|---|
| Žyta | 9 00—10.00 |
| Pšanica | 14 00—16.00 |
| Jačmień | 9.00—10.00 |
| Avios | 10.00—11.50 |
| Bulba stałovaja | — 2.00 |
| Siena, murožnaje | — 4 00 |
| Kaniušyna (siena) | — 5.00 |
| Švini (za kilo žyv. v.) | 0.70— 0.80 |
| Masła za kilo | 1.60— 2.20 |
| Jajki, štuka | 3—4 hr. |

**U Navahradku:**

| | |
|---|---|
| Žyta | 8.00— 9.00 |
| Pšanica | 13.50—16.00 |
| Jačmień | 9.00—10 50 |
| Avios | 10.50—12 50 |
| Siena murožnaje | — 3.00 |
| Kaniušyna (siena) | 4.00— 5 00 |
| Skacina na miasa (za kilo žyv. v.) | 0 35— 0.50 |
| Svini (kilo žyv. vahi) | 0 70— 0.80 |
| Masła prasavanaje (kilo) | — 2.00 |
| Jajko | 3—4 hr. |

**U Słonimie:**

| | |
|---|---|
| Žyta | 8 00— 9 00 |
| Pšanica | 12 00—15.00 |
| Jačmień | 9 00—10.00 |
| Avios | 11 00—12.00 |
| Bulba | 2.00—2.50 |
| Siena murožnaje | 2.00— 2.50 |
| Kaniušyna (siena) | 2.50— 3 00 |
| Švini (kilo žyv. vahi) | 0.70— 0.90 |
| Masła prasavanaje za kilo | 1.50— 2.00 |
| Jajki za štuku | 4—5 hr. |

Я. Ям—му: Аб перахаваньні бульбы мы пісалі летась (№ 10). Наагул аб перахоўваньні збожжа знойдзеце ў сяньняшнім нумары „Самапомачы." Аб рыбнай гаспадарцы даволі шырака напісана ў „Ziemlarobskaj čytancy" — выпісаць можна праз нашу рэдакцыю, каштуе ўсяго 1 зл. Чаму ў Вас дагэтуль няма гуртка дзеля супольнага чытаньня газэт і кніжак?

Лэнчыца(?): атрымалі ў апошнюю мінуту, дзякуем, пастараемся скарыстаць. Як будзеце ў Вільні, канешна адведайце нас.

Ф. А.—цу: Матар'ялы прысылайце, калі ласка, заўсяды на 1-ае кожнага месяца.

Шын—віч К.: пасылаем Вам гадавік „Самапомачы" за 1934 г. і ўсе нумары, якія выйшлі сёлета, з іх пазнаеце нашы імкненьні і працу. Пісьмо пасылаем асобна.



